№7(31)
Красавік 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Малюнак "Мінскай вясны": мы адзін народ...

# Выбары без права выбару

Кола дэмакратычных зьменаў, якія адбыліся ў Беларусі напачатку 90-х гадоў, становіцца ўсё вузейшым. Яшчэ раз падкрэсьлілі гэта выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў, што адбыліся ў краіне 4 красавіка. Прайшлі яны паводле новай канстытуцыі, "прынятай" на гэтаказваным рэферэндуме 1996-га году, і паводле новага закону аб выбарах, зацьверджанага ў 1998-ым годзе нелегітымным пралукашэнкаўскім парламентам. Паводле "канстытуцыі" паўнамоцтвы мясцовых органаў улады зьведзеныя да нуля, паводле "закону аб выбарах"— уласна выбары дэпутатаў ператвораныя ў іх прызначэньне.

Пра шматлікія парушэньні правоў чалавека, якія ўтрымліваюцца і ў "канстытуцыі" і ў "законе аб выбарах", наш бюлетэнь пісаў неаднаразова. Зьвярталі на гэта ўвагу міжнароднае супольнасьці і буйнейшыя партыі і рухі Беларусі, вядомыя палітычныя дзеячы. Указвалі беларускім уладам на парушэньні правоў чалавека ў выбарчым заканадаўстве прадстаўнікі АБСЕ і іншых уплывовых міжнародных арганізацый. Аднак прэзідэнт і ягоная каманда засталіся непахіснымі. У выніку, прымаць удзел у недэмакратычных выбарах адмовіліся практычна ўсе палітычныя партыі краіны. З прадстаўнікоў умоўна апазіцыйных прэзідэнту партый у выбарчых бюлетэнях засталіся толькі... камуністы. Стаміўшыся прадзірацца скрозь сіта абмежаваньняў і забаронаў заявілі пра няўдзел у выбарах нават падкрэсьлена лаяльныя да прэзідэнта ліберальныя дэмакраты. Таму аднамандатных (безальтэрнатыўных) акругаў было як ніколі шмат (дакладная колькасьць іх засталася таямніцай, вядома толькі, што ў сярэднім на дэпутацкі мандат прэтэндавалі 1,1 кандыдата).

З парушэньнямі прайшла і перадвыбарная кампанія. У большасьці акругаў зьвесткі пра кандыдаў у дэпутаты зьявіліся толькі за некалькі дзён да галасаваньня. Паводле сацыялагічнага апытаньня, каля 80 працэнтаў выбаршчыкаў пайшлі на ўчасткі так і ня ведаючы, хто балатуецца па іх акрузе. Галаўным болем для ўладаў стала забесьпячэньне неабходнага працэнту прыняўшых удзел у выбарах. Кіраўнікі шматлікіх прадпрыемстваў, установаў, арганізацыяў па загадзе з "вертыкалі"

(Працяг на стар.2)

## Хроніка

***17 сакавіка*** **сябра ініцыятыўнай групы па стварэньні філіі ПЦ «Вясна-96» Ю.Касьцюка выклікалі ў Наваполацкую гарадзкую пракуратуру.**

***23 сакавіка*** **сяброў Клімавіцкай (Магілёўская вобл.) раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ выклікалі ў пракуратуру. Пракурор А.Катляр вынес папярэджаньне.**

***25 сакавіка*** **сябра полацкай гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Міхаіл Баўтовіч быў выкліканы ў полацкую гарадзкую пракуратуру, дзе сьледчым А. Аўсюком было выпісанае афіцыйнае папярэджаньне за ўдзел у працы камісіі.**

***25 сакавіка*** **сябры Полацкай гарадзкой камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Мікола Ермалаеў і Віктар Стукаў былі выкліканыя ў пракуратуру г.Полацка, дзе ім вынесьлі папярэджаньне аб адміністратыўнай адказнасьці, прадугледжанай арт. 167.3 КаАП РБ (парушэньне заканадаўства аб выбарах).**

***25 сакавіка*** **Іван Януковіч атрымаў позву ў пракуратуру Полацкага раёну, дзе яму як намесьніку Полацкай раённай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ вынесьлі папярэджаньне аб адміністратыўнай адказнасьці, прадугледжанай арт. 167.3 КаАП РБ (за парушэньне заканадаўства аб выбарах), за подпісам пракурора Полацкага раёну, старэйшага дарадцы юстыцыі Н.М.Нікуленкі.**

***25 сакавіка*** **актывіст ініцыятыўнай групы па стварэньні наваполацкай філіі ПЦ «Вясна-96» Зьміцер Салаўёў быў выкліканы да рэктара Полацкага дзяржаўнага ўнівэрсітэту, асьпірантам якога ён зьяўляецца. Рэктар папярэдзіў яго аб магчымым выключэньні з асьпірантуры за палітычную дзейнасьць і працу па падрыхтоўцы выбараў прэзідэнта РБ.**

(Працяг на стар.6-7)

# Зноў арышты...

*Сродак змаганьня ўладаў з апазіцыяй адзіны і ранейшы: перасьлед іншадумцаў*

2 красавіка ў беларускай сталіцы на афіцыйным узроўні сьвяткавалі «Дзень яднаньня Беларусі і Расіі». У гэты ж дзень у Мінску па ініцыятыве Беларускай Асацыяцыі Маладых Палітыкаў (БАМП) адбыліся мітынг і шэсьце супраць намераў вяртаньня ядзернай зброі ў Беларусь.

У 15.30 на мінскую плошчу імя Якуба Коласа былі прывезеныя рабочыя сталічных прадпрыемстваў, каб "выказаць сваю падтрымку ідэі яднаньня" (напярэдадні дырэктары заводаў атрымалі загад забясьпечыць яўку рабочых пад страхам звальненьня). Пасьля заканчэньня афіцыйнага мерапрыемства на плошчы зьявіліся прадстаўнікі апазіцыі.

На правядзеньне акцыі-пратэсту супраць планаў вяртаньня ядзернай зброі ў Рэспубліку Беларусь на плошчы Якуба Коласа гарадзкія ўлады дазволу не далі, дазволілі толькі правесьці мітынг на плошчы Парыжскай Камуны каля Опернага тэатру. Але людзі, якія сабраліся на плошчы Якуба Коласа, нягледзячы на папярэджаньні супрацоўнікаў міліцыі, пачалі разгортваць лозунгі на трох мовах (беларускай, англійскай і рускай) з антыядзерным зьместам. Дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька (заяўляльнік акцыі, старшыня БАМП) заклікаў удзельнікаў акцыі па тратуарах накіравацца да Опернага тэатру — месца правядзеньня мітынгу. Калона рушыла па праспекце імя Францішка Скарыны.

Каля цырку адбыўся інцыдэнт — трое п'яных хлопцаў накінуліся на ўдзельніка антыядзернай акцыі Лявона Садоўскага і пачалі вырываць у яго з рук плакат. Удзельнікі акцыі здалі іх супрацоўнікам міліцыі, якія суправаджалі калону. Разам з затрыманымі хуліганамі ў міліцэйскую машыну сеў актывіст Беларускага Народнага Фронту Лявон Садоўскі, які зьбіраўся выступіць у якасьці сьведкі. Але атрымалася іншае — разам з затрыманымі Л.Садоўскі быў дастаўлены ў РАУС Цэнтральнага раёну, дзе пасьля таго, як ён даў паказаньні, на яго самога быў складзены пратакол як на ўдзельніка несанкцыянаванага шэсьця.

Пасьля заканчэньня мітынгу было арыштавана 20 яго ўдзельнікаў, сярод якіх шмат непаўнагадовых ад 12 да 14 гадоў. Рычард Каросьцік, да прыкладу, быў затрыманы ўвечары дома: па яго прыехаліна трох службовых машынах. Арыштаваныя былі дастаўленыя ў РАУС Савецкага раёну.

Падчас затрыманьня людзьмі ў цывільным, якія не паказвалі пасьведчаньні, была моцна зьбітая Г.Л. Кунінa. Яе даставілі ў сьпецпрыёмнік-размеркавальнік у цяжкім стане, пасьля гэтага яе адвезьлі ў 2-ю клінічную бальніцу.

У Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» зьвярнулася дачка Галіны Кунінай — Марыя, якая паведаміла: «Пасьля мітынгу я вярталася дахаты з маці, Кунінай Галінай Леанідаўнай, сяброўкай Харкінай Сьвятланай і сябрам Слышкіным Уладзімірам. На падыходзе да мосту праз раку Сьвіслач каля нас рыпыніліся чырвоныя «Жыгулі», з якіх выйшлі людзі ў цывільным і прапанавалі нам з сяброўкай сесьці ў машыну. Калі мы спыталі, хто яны такія і на якіх падставах нас затрымліваюць, яны пацягнулі нас ў машыну...» Сьведчаньне Харкінай Сьвятланы: «Людзі ў цывільным цягнулі нас у машыну, пры гэтым моцна зьбіваючы. Маці Марыі, Куніну Галіну, штурхнулі і яна ўпала на асфальт, моцна ўдарылася галавою і страціла прытомнасьць. Яе зацягнулі ў белыя «Жыгулі». Пасьля гэтага людзі ў цывільным паказалі свае службовыя пасьведчаньні».

У РАУСе Савецкага раёну 17-гадовы Цімафей Дранчук адмовіўся фатаграфавацца і атрымаў па твары ад маёра міліцыі.

Пазьней непаўнагадовых адпусьцілі, а 11 чалавек адвезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік на вул. Акрэсьціна, дзе яны ўтрымліваліся да судоў, якія адбыліся ў панядзелак 5 красавіка. Падчас знаходжаньня ў сьпецразьмеркавальніку тры чалавекі абвясьцілі галадоўку да моманту вызваленьня.

5 красавіка ў судзе Савецкага раёну Анатоль Лябедзька (заяўляльнік акцыі, старшыня БАМП, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня) атрымаў штраф 75 млн. рублёў (прыкладна 250 даляраў ЗША); Лукойка Станіслаў, Слышкін Уладзімір, Капарыха Мікалай, Аўраменка Антон, Рычард Каросцік — штраф у 10 млн. рублёў кожны; Снапкоўскі Анатоль — 5 сутак адміністратыўнага арышту; Харкіна Сьвятлана і Радкевіч Уладзімір — папярэджаньні. Куніна Галіна Леанідаўна знаходзіцца ў 2-ой клінічнай бальніцы г.Мінска з сатрасеньнем галаўнога мозгу.

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

# Выбары без права выбару

*(Пачатак на стар. 1)*

зьбіралі сходы працоўных калектываў напярэдадні выбараў, на якіх абяцалі тым, хто ня пойдзе галасаваць, усялякія спагнаньні ды пакараньні. Колішні жарт: ня пойдзеш галасаваць — не атрымаеш каня (сена), зноў набыў у беларускіх вёсках рэальны зьмест. Паказальны ў гэтым сэнсе такі факт: у ці не самай апазіцыйнай прэзідэнту Гродзенскай вобласьці ў выніку аказаўся ледзь не найбольшы працэнт прагаласаваўшых. Чаму? Ды таму, што там на выбаршчыкаў быў аказаны наймацнейшы ўціск: дзень выбараў супаў з каталіцкім Вялікаднем, і ўлады баяліся, што каталікі іх праігнаруюць... Зноў, як і на апошнім рэферэндуме, шырока прымянялася сістэма папярэдняга галасаваньня. Прычым галасаваць маглі ня толькі тыя, хто па пільнай патрэбе ад'язджаў некуды ў гэты дзень, але і ўсе жадаючыя. Вось тут якраз была поўная дэмакратыя.

Выбары прайшлі. Даволі ціха, мяркуючы па прэсе і тэлебачаньні, непрыкметна. Улады падлічылі працэнты і абвясьцілі пра сваю чарговую перамогу над... уласным народам. "Вертыкаль" паказала сябе сілай, здольнай паўплываць (дакладней будзе сказаць — прадвызначаць) на вынікі любых падобных "дэмакратычных" выбараў. Няважна, што за іх ходам не сачылі незалежныя назіральнікі, як гэта прынята ва ўсім сьвеце (АБСЕ сваіх афіцыйных прадстаўнікоў не даслала).



Няважна, што беларускі незалежны друк пералічвае шматлікія парушэньні правоў чалавека нават пры такіх "сямейна-ціхіх" выбарах: камісіі "падцягвалі" патрэбныя працэнты фальсіфікуючы вынікі галасаваньня, дазвалялі галасаваць сваякам па пашпартах членаў сям'і, самі са скрынкамі абыходзілі спрэс усе кватэры і што толькі яшчэ не рабілі, каб выканаць жорсткі загад "вертыкалі" — выбары правесьці любой цаной. (Паказальна, што там, дзе дэмакраты дзеля эксперыменту перакрылі назіральнікамі ўсе выбарчыя ўчасткі — у горадзе Наваполацку — выбары не адбыліся). Няважна, што, вельмі верагодна, вынікі гэткіх выбараў у дэмакратычным сьвеце прызнаныя ня будуць...

Адбылося галоўнае — рэпетыцыя выбараў Лукашэнкі на новы прэзідэнцкі тэрмін прайшла пасьпяхова. І дарэмна ён адцягвае іх ажно на пачатак наступнага тысячагодзьдзя. З такімі памочнікамі і такімі законамі яму баяцца няма чаго...

**Андрэй НАЛІВА**

# Апраўданьне

## Шытая белымі ніткамі "справа Плешчанкі" разбурылася на судзе як хатка з пяску...

Суд над адным з лідэраў віцебскай апазіцыі Уладзімірам Плешчанкам, абвінавачаным у дэмантажы бюста Суворава, скончыўся вызваленьнем падсуднага з-пад варты пасьля амаль васьмі месяцаў ягонага зьняволеньня. Падчас працэсу выявілася, што за такі працяглы час доказаў удзелу Плешчанкі ў дэмантажы помніка сьледства так і не знайшло. А паколькі непераканаўчыя доказы – не доказы ўвогуле, то іх агучваньне сьведкамі абвінавачваньня выклікала толькі неразуменьне суда, сьмех у судовай зале, а часам і ўсьмешкі нават міліцэйскага канвою вакол клеткі з падсудным.

Суд скончаны – справа працягваецца. У.Плешчанка вызвалены, але справа аб зьнікненьні бюста расійскага палкаводца перададзена на далейшае расьсьледаваньне. Гэта наводзіць на некалькі высноваў.

Па-першае, нават калі віна чалавека ня толькі не пацьвярджаецца, але і красамоўна абвяргаецца, нашыя суды не сьпяшаюцца яго апраўдваць. Тым больш, калі справа датычыцца палітычнай сферы (а што яе тычыцца справа Плешчанкі, аказалася, было зразумела нават сьведкам-міліцыянерам).

Па-другое, нягледзячы на тое, што час для сьледства страчаны, а шэраг сьледчых працэдураў зробленыя незаконна, нелагічна і непрафесійна – шукаць «аўтара» дэмантажу ўсё роўна будуць. І, ня выключана, неўзабаве «знойдуць», як летась «знайшлі» У.Плешчанку...

Уладзімір Плешчанка быў фактычна закладнікам рэжыму. Магчыма, віцебская «вертыкаль» ды тамтэйшыя начальнікі ў пагонах разьлічвалі, што легендарны Мірон перастане вывешваць сьцягі, увогуле – што мясцовыя палітычныя апаненты рэжыму спыняць свае публічныя акцыі пратэсту. Але так ня здарылася. Пакуль спадар Уладзімір сядзеў, загадкавы і няскораны Мірон прайшоўся па ўсёй краіне. Нацыянальныя сьцягі за гэты час луналі нават над адміністратыўнымі будынкамі Віцебску і Мінску. Напярэдадні Дня Волі, пасьля якога павінен быў працягвацца судовы працэс Плешчанкі, Мірон пакінуў сьцяг і традыцыйную цыдулку ў горадзе Лёзна на 35-метровай высакавольтнай апоры электраперадачы. «Наяўнасьць палітвязьняў на маёй Радзіме лішні раз пацьвярджае антыбеларускі курс рэжыму. Свабоду Уладзіміру Плешчанку!» – пісаў Мірон.

Незакрыцьцё крымінальнай справы па факту дэмантажу бюста Суворава павінна служыць своеасаблівай «страшылкай» для людзей, што ня могуць моўчкі прымаць антыбеларускі рэжым. Гэткім чынам віцебскім апазіцыянерам далі зразумець, што пакуль пытаньне «вісіць у паветры», тыя жывуць між воляй і турмой.

### Удзельнікі працэсу

Справу пра бюст разглядаў суд Кастрычніцкага раёну Віцебска. Старшыняваў на працэсе судзьдзя Аляксандр Абашын. Перагарнуўшы старонкі шматлікіх адміністратыўных справаў сяброў віцебскай Рады БНФ «Выбар», датаваныя мінулымі гадамі, я ўбачыла, што Аляксандр Віктаравіч сустракаецца з Уладзімірам Плешчанкам у судзе не ўпершыню. Як і з «Выбарам» увогуле. Аднойчы судзьдзі давялося аштрафаваць Плешчанку і аднойчы – ягонага паплечніка Юрася Карпава. За ўдзел у вулічных акцыях. Потым імя Аляксандра Абашына з адміністратыўных прысудаў фронтаўцаў зьнікае. Яны становяцца як бы пастаяннымі кліентамі ў іншых калегаў Абашына.

Абвінаваўчы бок на працэсе прадстаўляў намесьнік пракурора Кастрычніцкага раёну Віцебска Віктар Паўлюкевіч. Абараняў У.Плешчанку адвакат Уладзімір Шайкевіч. У якасьці грамадзкіх абаронцаў у працэсе ўдзельнічалі праваабаронцы з «Вясны-96» Алесь Бяляцкі і Вялянцін Стэфановіч. Просьба адвакат — праводзіць слуханьні справы, зьмяніўшы Плешчанку меру стрыманьня на падпіску аб нявыезьдзе, выкананая не была да самага апошняга дня працэсу, пакуль «доказы віны» не разваліліся як махінацыі нявопытнага картачнага шулера. Які быў сэнс трымаць лідэра «Выбару» у клетцы, вазіць туды-сюды ў турэмнай машыне, падаўжаць яго «прапіску» у нездаровых умовах СІЗА – з пункту гледжаньня нармальнай логікі незразумела.


Уладзімір Плешчанка на выхадзе з залы суда

Затое зразумела, чаму ўлады баяліся залішняга шуму вакол віцебскага працэсу. Уладзіміра Плешчанку было забаронена фатаграфаваць у перапынках паміж пасяджэньнямі. Калі фотакарэспандэнт «Віцебскага кур'еру» паспрабаваў зрабіць пару кадраў спачатку ў перапынку, а пасьля на вуліцы (падсуднага як раз выводзілі ў кайданках да турэмнага фургону), канвой без усялякіх тлумачэньняў адабраў у карэспандэнта фотаапарат ды засьвяціў стужку... Як мне падаецца, і зала для разгляду справы У. Плешчанкі была выбраная адмысловая: клетка разьмешчаная ў ёй ззаду, за сьпінамі прысутных на судзе. Можа, іншыя залы былі занятыя, а можа, нехта хацеў, каб вязьня сумленьня менш падбадзёрвалі прысутныя ў зале аднадумцы?

Першае пасяджэньне суда мела месца яшчэ 14 сакавіка, але скончылася нечаканасьцю. Працэс «пайшоў», у той час як падсуднаму не далі... азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы. Вядома, гэта цалкам незаконна. Давялося пачынаць суд спачатку 26 сакавіка...

### Каго і што шануюць віцябляне?

Прапануем чытачам некаторыя зьвесткі пра «сувораўскі» бюст, прыведзеныя Валянцінай Кунцэвіч – галоўным сьпецыялістам ўпраўленьня культуры гарвыканкама. Спадарыня Кунцэвіч была запрошаная на суд Плешчанкі ў якасьці эксьперта.

Бюст Суворава ўсталяваны ў 1952 годзе (іншымі словамі, яшчэ пры Сталіне). Аўтар помніка – скульптар Смалякоў. У 1987 годзе бюст быў узяты пад ахову дзяржавы як гістарычная каштоўнасьць. У 1992 годзе ўжо ў незалежнай Беларусі быў прыняты Закон «Аб зьберажэньні культурнай і гістарычнай спадчыны» (уступіў у сілу ў траўні 93-га), згодна зь якім помнік Сувораву статус культурнай каштоўнасьці страціў. Права наданьня таму ці іншаму помніку статус гістарычнай каштоўнасьці мае, па словах спадарыні Кунцэвіч, навукова-гістарычны савет, у склад якога звычайна ўваходзяць архітэктары, скульптары, навукоўцы з Акадэміі Навук. За апошні год, што В.Кунцэвіч працуе ў віцебскім гарвыканкаме, пытаньне аб вяртаньні помніка Сувораву пад ахову дзяржавы не ўздымалася.

Эксьперт не ўзялася ацэньваць перад судом мастацкія вартасьці помніка, але мусіла прызнаць, што бюст не ўяўляе сабой матэрыяльнай каштоўнасьці. Па ўсіх дакументах упраўленьня культуры бюст Сувораву «праходзіць» як выраблены з гіпсу.

Дарэчы, выпадак, пасьля якога пасадзілі за краты Уладзіміра Плешчанку – не першы ў Віцебску інцыдэнт з помнікамі. Прынамсі, людзям, што адыгралі ў гісторыі нашага і іншых народаў ролю «інтэгратараў». Мясцовыя жыхары распавядаюць, як ужо ў другой палове 90-х (пры гэтым самым рэжыме Лукашэнкі) нехта адбіў галаву скульптуры Леніна перад адным з адміністратыўных будынкаў. А на вуліцы Багдана Хмяльніцкага аднойчы прыбралі выяву прамаскоўскага ўкраінскага гетмана. Нічога надзвычайнага тады не здарылася. Нікога не хапалі, у турму не кідалі – на здарэньні нават мала хто зьвярнуў увагу. Толькі Сувораву ў Беларусі – асаблівая пільнасьць і пашана. Мабыць, той найбольш адпавядае характару нашага «інтэграцыйнага з Расіяй» часу...

### «Справа – надуманая...»

Супраць Уладзіміра Плешчанкі, як вядома, вылучылі ажно два крымінальныя артыкулы: 201 ч.2 і 225 ч.2. «Хуліганства» ды «пашкоджаньне гістарычных каштоўнасьцяў». І тое, і другое – «злосныя».

Плешчанка катэгарычна не прызнаў сваёй віны. «Абвінавачваньні супраць мяне надуманыя, са штучным стварэнь-

(Заканчэньне на стар. 4-5)

# Апраўданьне

(Пачатак на стар. 3)

нем доказаў»,— заявіў ён. На пытаньне, ці давярае ён суду, адказаў: «Мне ўсё роўна, які суд будзе разглядаць справу, паколькі ў краіне няма незалежнага суда. Галоўнае – каб была галоснасьць». Па словах падсуднага, калі ён і мае дачыненьне да зьнікненьня помніка, то зусім не да ягонага практычнага дэмантажу. У.Плешчанка раней неаднаразова зьвяртаўся да грамадзкасьці праз незалежныя газеты і ўлёткі з думкай, што ганебна захоўваць памяць «чалавека, які пазбавіў Беларусь незалежнасьці». Цяпер лідэр віцебскай Рады БНФ «Выбар» не выключае, што нехта вырашыў рэалізаваць ягоную думку на практыцы.

Першапачаткова акрамя згаданага вышэй эксьперта з віцебскага гарвыканкаму на працэс былі запрошаныя выключна сьведкі-міліцыянты з Кастрычніцкага РАУС – спадары Заблоцкі, Кавалеўскі і Дамакур. Па хадайніцтву Плешчанкі і ягонага адваката да сьпісу сьведкаў суд далучыў таксама Юрася Карпава і Барыса Хамайду (менавіта іх намесьнік начальніка РАУС сустрэў разам у ноч зьнікненьня помніка).

Зірнем на падзеі вачыма непасрэдных удзельнікаў.

### «Ракавая» ноч

Вечарам 31 жніўня мінулага году Уладзімір Плешчанка прыехаў па асабістых справах у Віцебск на ўласным аўтамабілі. Як заявіў Плешчанка суду, а раней сьледству, справы гэтыя ніяк не датычацца справы крымінальнай, заведзенай пазьней супраць яго. Ноччу Плешчанка пайшоў распаўсюджваць улёткі пра сканчэньне тэрміну прэзідэнцтва Лукашэнкі ды апазіцыйную прэсу, бо рабіць гэта днём, як паказвае вопыт «Выбару», небясьпечна. Разам з падсудным быў Барыс Хамайда. Праўда, у справе чамусьці фігуруе яшчэ Карпаў, але Плешчанка не разумее, адкуль ён там узяўся...

Сьведка Генадзь Заблоцкі, паводле ягоных словаў, позьнім вечарам 31 жніўня ішоў па горадзе і сустрэў мужчыну з нецьвярозай жанчынай. Вырашыў за імі прасачыць, каб чаго не здарылася. Спадар Заблоцкі непрыкметна пайшоў сьледам за падазронай парачкай, але ў працы, як заўсёды, перашкаджае мясцовая апазіцыя. Раптам проста на міліцыянта выйшлі тры чалавекі, у якіх ён адразу пазнаў сяброў «Выбару» — Барыса Хамайду, Юрася Карпава і Уладзіміра Плешчанку.

«Я зразумеў, што іхняе зьяўленьне тут – не выпадковае»,— патлумачыў суду свае ўражаньні ад той сустрэчы Г.Заблоцкі. Тым часам, працягваў ён, Ю.Карпаў хутка разьвітаўся з таварышамі ды збочыў некуды на іншую вуліцу. «Што вы тут робіце?» – спытаўся ў Хамайды з Плешчанкам намесьнік начальніка Кастрычніцкага райаддзелу. «Малюем на сьценах»,— пачуў у адказ. (Іншыя сьведкі-міліцыянеры сьцьвярджалі, што адказ фронтаўцаў гучаў: «Вешаем сьцягі»). Генадзь Заблоцкі успрыняў паведамленьне вельмі сур'ёзна, нават не зьвярнуўшы ўвагу на тое, якім тонам яно было сказанае. Ён адразу ж зрабіў вобыск «кішэняў куртак і штаноў» Хамайды і Плешчанкі. На судзе сваю пільнасьць сп.Заблоцкі патлумачыў тым, што надпісы на сьценах на тэрыторыі ягонага раёну раней сапраўды зьяўляліся.

Не знайшоўшы ў «кішэнях куртак і штаноў» нічога падазронага, міліцыянер не супакойваецца ў сваіх падазрэньнях і вядзе грамадзянаў у пастарунак. Цікава, што ён ня толькі перадае Хамайду і Плешчанку ў дзяжурную часьць, але і дае каманду абшукаць іх яшчэ раз.

Далей паказаньні Заблоцкага і Плешчанкі істотна разыходзяцца. Плешчанка распавядае, як падышоў разам з Хамайдам да сваёй машыны і ўбачыў, што ў яе салоне, які не быў замкнёны, корпаецца намесьнік начальніка РАУС. Той, у сваю чаргу, сьцьвярджае, быццам Плешчанка добраахвотна, падпарадкоўваючыся просьбе, дастаў з-пад кола схаваны ключ і адамкнуў машыну. У салоне яе ляжалі газеты і загорнутыя ў іх пустыя балончыкі з-пад фарбы.

Неўзабаве міліцыянер і грамадзяне мірна разышліся. Каля пяці гадзінаў раніцы Заблоцкі выйшаў на вуліцу, пайшоў паўз ваенкамат і асьвятліў ліхтарыкам бюст генералісімуса. «Асьвятліўшы помнік Сувораву, я ўбачыў, што ён адсутнічае», — канстатаваў пазьней падпалкоўнік. Ранкам ён даводзіць да ведама свайго і ваенкаматаўскага кіраўніцтва факт такой вось «наяўнасьці адсутнасьці» і каля васьмі гадзінаў сыходзіць на выходны. Праўда У.Плешчанка гаворыць, што бачыў Заблоцкага каля пустога пастаменту апоўдні, падчас дасьледаваньня месца здарэньня сьледчай групай... Заблоцкі гэта адмаўляе.

### Загадкі вуліцы Суворава

Суд так і ня змог разабрацца з іншым несупадзеньнем па часе, калі адбылася тэлефонная размова паміж дзяжурнымі райаддзьдзелу міліцыі і гарваенкамату (будынкамі нумар 28 і 30 па вул.Суворава). Паводле сьведкі Заблоцкага, гэта было пасьля 5 гадзінаў раніцы 1 верасьня, але пратаколы сьледства чамусьці фіксуюць іншы час – 3 гадзіны 20 хвілінаў. Як за гадзіну і сорак хвілінаў да здарэньня дзяжурныя маглі абмяркоўваць зьнікненьне бюста, так і засталося "нявытлумачаным"?

Далей – болей. Раніцай 1 верасьня эксьперты аглядаюць месца вакол пастаменту і знаходзяць там сьлед ад гумавага бота і гузік ад пінжака. Ніякіх асаблівасьцяў сьледу ў пратаколах яны не фіксуюць, пра гузік жа пішуць толькі тое, што ён «цёмнага колеру». Сьведка Дамакур, праўда, заяўляе на судзе, што колер быў «невызначальны» (і тут жа дадае: «карычневы з белым»). Увесь дзень сьледчая група думае, што рабіць далей, а назаўтра каля сямі гадзінаў ранку двое міліцыянтаў у цывільным прыязджаюць да Плешчанкі ў вёску Вароны (як яны тлумачылі суду, першага падазраваемага шукалі, але не знайшлі ў Віцебску). Пазьней супрацоўнікі Кастрычніцкага РАУС Дамакур і Кавалеўскі будуць блытацца ў сваіх успамінах, а тое, што ўзгадаюць, толькі дазволіць адвакату Плешчанкі зьвярнуць увагу суда на шматлікія парушэньні Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу РБ. У Плешчанкі забралі для эксьпертызы гумавыя боты. Адзін са сьведкаў кажа, што боты ў хаце былі толькі адныя, другі – што выбралі з некалькіх параў самыя навейшыя і, па ўсіх прыкметах, толькі што зьнятыя гаспадаром пасьля выхаду ў іх на двор. Узялі з той жа мэтай пінжак; па словах аднаго, ён ня бачыў, дзе менавіта ўзялі, другі сьцьвярджае, што пінжак гаспадар зьняў з вешалкі ў пакоі, а сам Плешчанка гаворыць, што быў у гэты пінжак апрануты. Далей: хоць "выемка рэчаў" адбываецца ў Варонах, пратакол складаецца ў Віцебску, у кабінеце Дамакура: маўляў, ня ўзялі з сабой міліцыянты ні паперы, ні асадкаў... Панятымі, адпаведна, былі работнікі міліцыі і кіроўца Кастрычніцкага РАУС – іншымі словамі, людзі, якія бяруць рэчы для эксьпэртызы, пішуць пратакол і таму зацікаўленыя ў ягоным зьмесьце. Да таго ж высьветлілася, што подпісы «панятыя» паставілі на пратаколе сама менш праз два з паловай дні пасьля яго складаньня. Каля 12 гадзін 4 верасьня адвакат У.Шайкевіч, які знаёміўся з матэрыяламі крымінальнай справы, убачыў на свае вочы адсутнасьць подпісаў. У матэрыялах справы маецца пісьмовая заява адваката, зробленая ім з нагоды гэтага парушэньня закону самой міліцыяй. Яшчэ адным парушэньнем, па словах абаронцы, ёсьць правядзеньне Дамакурам вобыскаў у Хамайды і Карпава (таксама 2 верасьня), хоць ужо была створаная сьледчая група, у якую сп. Дамакур не ўваходзіў. Тым ня менш ён ездзе да магчымых «падзельнікаў» Плешчанкі і таксама спрабуе знайсьці кампрамат. На судзе гэты міліцыянт скардзіўся на паводзіны Барыса Хамайды, які нібыта на прапанову даць боты «нецэнзурна лаяўся». «Чаму ж вы гэта не зафіксавалі ў пратаколе вобыску?» – пацікавіўся адвакат. «Ну, чаму, — разгубіўся, але «знайшоўся» Дамакур, — прачытайце ўважліва! Я ў канцы напісаў, што ён з нашымі дзеяньнямі не пагадзіўся...».



Той самы пастамент.

З усіх загадкавых акалічнасьцяў створанага Кастрычніцкім РАУСам «віцебскага дэтэктыву» самымі пікантнымі сталі два пытаньні. Першае: калі ў дакументах сказана, што вага зьнятага бюста Суворава – 316 кілаграмаў, то як яго мог падняць хворы на сэрца 50-гадовы Плешчанка, якому ўрачы забараняюць падымаць больш за 16 кілаграмаў? Сам падсудны заўважыў, што, верагодна, сьцягнуць такі помнік больш пад сілу са-

мому Генадзю Заблоцкаму – няхай суд яго і распытвае, як гэта было зроблена. Сваім пытаньнем: «Вы – Мірон ці не?» Плешчанка не на жарт перапалохаў спадара Заблоцкага: той якраз марыў стаць дэпутатам гарсавету на выбарах 4 красавіка...

Другое пытаньне – усё тыя ж «рэчавыя доказы». Тут не абысьціся без двухкосься. Мяркуйце самі.

Пінжак. Дасьледаваўшы пінжак, прывезены Дамакурам ад Плешчанкі, эксьперты фіксуюць у дакументах адсутнасьць двух гузікаў. Міліцыянты ў паказаньнях сьцьвярджаюць, што не было ўсяго аднаго гузіка. Плешчанка кажа, што былі і ёсьць усе. Пра блытаніну з колерамі і іх «невызначальнасьць» мы ўжо гаварылі.

Боты. Тыя самыя, гумавыя, у якіх сьлед ня мае ніякіх адметнасьцяў. Калі параўноўваць матэрыялы справы і паказаньні розных сьведкаў – такое ўражаньне, што кожны міліцыянт гэтага адздзелу прынёс ці па боту, ці па некалькі, а потым мералі іх па чарзе ўсім працоўным калектывам. То «боты былі зусім новыя», то яны «мелі пашкоджаньні», то падкладка ў ботаў сьветлая, то яна раптам «цямнее»... То не супадаюць памеры гумовага абутку, прычым – на чатыры з паловай сантыметры. Логіка падначаленых сп. Заблоцкага проста жалезная! Дзеяньні – «з дакладнасьцю да міліметра»! Гэта зразумела нават чалавеку, які ня мае дачыненьня да крыміналістыкі. Увогуле, Заблоцкі пры завядзеньні крымінальнай справы супраць лідэра віцебскай апазіцыі меўся на ўвазе як «відавочца злачынства», са словаў якога Плешчанку і схапілі.

Разам з ахвярай сваёй надзвычайнай пільнасьці падпалкоўнік Заблоцкі пацьвердзіў палітычны характар гэтай справы. На пытаньне Алеся Бяляцкага, як міліцэйскі начальнік ставіцца да сяброў БНФ і якія мае з імі адносіны, той з гатоўнасьцю адказаў літаральна наступнае: «Як толькі яны (бэнэфаўцы) зьяўляюцца на тэрыторыі нашага раёну, мы іх адразу затрымліваем, адвозім у міліцыю, складаем пратаколы і перадаем справы ў суд». Шчыра і дакладна, спадар падпалкоўнік!..

### *Замест пасьляслоўя*

«Ніводная дзяржава ня стане ўсталёўваць бюст свайму заваёўніку, якім для Беларусі зьяўляецца Сувораў. Толькі акупацыйныя праваахоўныя органы будуць гэты бюст ахоўваць і прыцягваць да адказнасьці прадстаўнікоў заваяванага народа па крымінальных артыкулах, па якіх прыцягваюся я». Гэтак сам Плешчанка ацэньвае сітуацыю вакол сваёй крымінальнай справы. Гэта прагучала з яго вуснаў і падчас суда. Зараз спадар Уладзімір вольны, але невызвалены. Суд над ім скончыўся, але «справе Суворава» канца-краю пакуль што ня бачна.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

***P.S.*** Пакуль рыхтаваўся гэты матэрыял, стала вядома пра новае затрыманьне Уладзіміра Плешчанкі. Яго схапілі разам з Барысам Хамайдам пры распаўсюджваньні ў цэнтры Віцебска газеты «Выбар» ды іншай перыёдыкі. Падставай для затрыманьня стала шыльда з надпісам «Незалежная прэса», прымацаваная на грудзях Б.Хамайды. Цяпер абодвух абвінавачваюць у арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу. Адміністратыўная справа Хамайды і Плешчанкі перададзеная міліцыяй адразу ў абласны суд.

# "Віну не прызнаў..."

*ЗАЦЬВЯРДЖАЮ*
*Пракурор Кастрычніцкага р-ну*
*г. Віцебску*
*юрыст першага класу*
*Гаціла А. Е.*
*" " сьнежня 1998 году.*

**АБВІНАВАЎЧАЕ ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ**

**па крымінальнай справе №198982 па абвінавачаньні грамадзяніна Плешчанкі Уладзіміра Рыгоравіча ў злачынстве, прадугледжаным арт. 201, ч.2, 225, ч.2 КК РБ.**

Гэтая крымінальная справа ўзбуджаная 2.09.98 году па адносіне з упраўленьня культуры Віцебскага гарадзкога выканаўчага камітэту.

Праведзеным па гэтай крымінальнай справе расьследаваньнем вызначана, што абвінавачаны Плешчанка У. Р. раней ня быў асуджаны *(л. с. 94)*, на уліку ў псіхіятра-нарколага не стаіць *(л. с. 96)*, па месцы жыхарства характарызуецца задавальняюча *(л. с. 95)*.

Плешчанка Уладзімір Рыгоравіч, 1948 году нараджэньня, дастаткова выкрываўся сабранымі па справе доказамі ў тым, што ён 1 верасьня 1998 году, у начны час, з нявызначанымі сьледствам асобамі, знаходзячыся ў скверы насупраць Віцебскага гарваенкамату, разьмешчанага па вул. Суворава д. 28, дзе з хуліганскіх намераў, наўмысна, груба парушаючы грамадзкі парадак, выказваючы пры гэтым яўную непавагу да грамадзтва, праяўляючы пры гэтым дзёрзкасьць, зьбіў з пастаменту бюст палкаводца Суворава А. В., які зьяўляецца помнікам гісторыі, узятым пад ахову дзяржавы, які выкінуў пасьля ў двары дома 22 па вул. Суворава г. Віцебску.

Гэтымі дзеяньнямі гр-н Плешчанка У.Р. зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 201 ч.2 КК РБ.

Ён жа ў начны час 1 верасьня 1988 году з нявызначанымі сьледствам асобамі, знаходзячыся ў скверы насупраць Віцебскага гарваенкамату, разьмешчанага па вул. Суворава, 28, зьдзяйсьняючы супрацьпраўныя, хуліганскія дзеяньні, зьбіваючы з пастаменту бюст Суворава А. В. наўмысна пры гэтым нанёс бюсту пашкоджаньні, якія выявіліся ў разьбіцьці яго пастаменту.

Гэтымі дзеяньнямі Плешчанка У. Р. зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 225, ч. 2 КК РБ.

Будучы прыцягнутым і дапытаным у якасьці абвінавачанага, гр-н Плешчанка У. Р. сваю вінаватасьць не прызнаў і даваць якія-небудзь паказаньні адмовіўся *(л. с. 53)*.

Сьведка Заблоцкі Генадзь Аляксандравіч на допыце засьведчыў, што 1 верасьня 1998 году ў 3 гадзіны ночы ён выйшаў з будынку Кастрычніцкага РАУС г. Віцебску і сустрэў Плешчанку У. Р., Хамайду Б. Ф., Карпава Ю. В. Пасьля чаго прыкладна ў 5 гадзінаў раніцы ён выйшаў з будынку Кастрычніцкага РАУС і заўважыў, што на пастаменце адсутнічае бюст А. В. Суворава, які стаяў насупраць Віцебскага гарваенкамату па вул Суворава 28. Гр-н Плешчанка У. Р. быў апрануты ў сьветлую куртку і гумавыя боты.

Сьведка Кавалеўскі Сяргей Іванавіч на допыце засьведчыў, што 2 верасьня 1998 году ён удзельнічаў у канфіскацыі пінжака і гумавых ботаў у вёсцы Вароны Віцебскага раёну. Плешчанка У. Р. заявіў, што гэтыя боты належаць яму асабіста. *(л. с. 49)*.

Сьведка Кунцэвіч Валянціна Мацьвееўна на допыце засьведчыла, што помнік Сувораву А. В. зьяўляецца помнікам гісторыі, і ён знаходзіцца пад аховай дзяржавы *(л. с. 74-75)*.

Сьведка Дамакур Сяргей Аляксандравіч на допыце засьведчыў, што ён 2.09.98 году канфіскаваў у вёсцы Вароны Віцебскага р-ну ў гр-на Плешчанкі з дому пінжак і гумавыя боты. Плешчанка У. Р. заявіў, што гэтыя боты належаць яму асабіста. *(л. с. 77)*.

Таксама віна абвінавачваемага пацьвярджаецца матэрыяламі крымінальнае справы: адносінай *(л. с. 2)*, рапартам *(л. с. 4)*, пратаколам ОМП *(л. с. 10-15)*, ахоўным пасьведчаньнем *(л. с. 8)*, адносінай *(л. с. 9)*, пратаколам ОМП *(л. с. 45-46, 47-48)*, пастановай, пратаколам *(л. с. 57)*, пастановай аб прызначэньні эксьпертызы *(л. с. 65-75)*, пратаколам агляду і далучэньня рэчавых доказаў *(л. с. 86-87)* і іншымі матэрыяламі крымінальнае справы ў іх сукупнасьці і ўзаемасувязі.

На падставе выкладзенага

АБВІНАВАЧВАЕЦЦА:
ПЛЕШЧАНКА УЛАДЗІМІР РЫГОРАВІЧ
25.11.48 года нараджэньня, ураджэнец в. Вароны Віцебскага раёну, беларус, гр-н РБ, адукацыя вышэйшая, жанаты, працуючы журналістам газеты "Выбар", які жыве ў в. Вароны Віцебскага р-ну, ваеннаабавязаны, раней не судзімы,

у тым, што ён 1 верасьня 1998 году ў начны час з нявызначанымі сьледствам асобамі, знаходзячыся ў скверы насупраць Віцебскага гарваенкамату, разьмешчанага па вул. Суворава д. 28, дзе з хуліганскіх намераў, наўмысна, груба парушаючы грамадзкі парадак, выказваючы пры гэтым яўную непавагу да грамадзтва, праяўляючы пры гэтым асаблівую дзёрзкасьць, зьбіў з пастаменту бюст палкаводца Суворава А. В., які зьяўляецца помнікам гісторыі, узятым пад ахову дзяржавы, які выкінуў пасьля ў двары дома 22 па вул. Суворава г. Віцебску.

Гэтымі дзеяньнямі гр-н Плешчанка У. Р. зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 201, ч.2 КК РБ, г. зн. злоснае хуліганства, якое выявілася ў наўмысных дзеяньнях, груба парушаючых грамадзкі парадак і выказваючых яўную непавагу да грамадзтва, адрозных па сваім зьмесьце асаблівай дзёрзкасьцю.

Ён жа ў начны час 1 верасьня 1988 году з нявызначанымі сьледствам асобамі, знаходзячыся ў скверы насупраць Віцебскага гарваенкамату, разьмешчанага па вул. Суворава 28, зьдзяйсьняючы супрацьпраўныя, хуліганскія дзеяньні, зьбіваючы з пастаменту бюст Суворава А. В., наўмысна пры гэтым нанёс бюсту пашкоджаньні, якія выявіліся ў разьбіцьці яго пастаменту.

Гэтымі дзеяньнямі Плешчанка У. Р. зьдзейсьніў злачынства, прадугледжанае арт. 225, ч. 2 КК РБ, г. зн. наўмыснае пашкоджаньне гісторыка-культурных каштоўнасьцяў, узятых пад ахову дзяржавай.

Абвінаваўчае заключэньне складзенае ў г. Віцебску 2.12.98 году і ў парадку арт. 207 КПК РБ разам з матэрыяламі крымінальнай справы накіроўваецца пракурору Кастрычніцкага р-ну г. Віцебску для зацьвярджэньня і накіраваньня па падсуднасьці.

**Ст. сьледчы СА Кастрычніцкага РАУС г. Віцебску ГІНЬКО С. Э.**

***"ЗГОДЗЕН"***

**Начальнік СА Кастрычніцкага РАУС г. Віцебску Л. І. АФАНАСЬЕЎ.**

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*29 сакавіка* пракуратура Полацкага раёну вынесла папярэджаньне сябру выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Савасьціёнку Андрэю. У сваёй заяве, накіраванай у ПЦ «Вясна-96», А.Савасьціёнак піша: «Зьвяртаю вашую ўвагу, што на дакуменце няма рэгістрацыйнага нумару. Як паведаміла мне намесьнік пракурора Л.Заенка, гэты дакумент у пракуратуры не зарэгістраваны. Л.Заенка адмовілася даць інфармацыю, хто зьяўляецца ініцыятарам праверкі пракуратурай выкананьня заканадаўства аб выбарах».

*29 сакавіка* сябра Полацкай гарадзкой камісіі Мікалая Шарахана выклікалі ў пракуратуру г.Полацка, дзе ён атрымаў афіцыйнае папярэджаньне за ўдзел ў працы камісіі за подпісам старэйшага дарадцы юстыцыі, пракурора г.Полацка А.М. Кучарэнкі.

*На працягу сакавіка* неаднаразова выклікаўся ў пракуратуру Павел Бурдыка — старшыня камісіі па выбарах Прэзідэнта РБ па Полацкаму раёну Віцебскай вобласьці.

*29 сакавіка* ў Мастоўскую пракуратуру (Гродзенская вобл.) былі выкліканыя ўсе сябры раённай выбарчай камісіі. З сяброў камісіі былі ўзятыя тлумачэньні і вынесеныя папярэджаньні.

*1 красавіка* ў 17.30 у Гомелі ў офіс аб'яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы" зьявіліся 5 супрацоўнікаў міліцыі на чале з палкоўнікам Гаркавым, спасылаючыся на тэлефоннае паведамленьне аб тым, што ў гэтым памяшканьні знаходзяцца наркатычныя сродкі і зброя. У офісе ў прысутнасьці панятых быў праведзены вобыск.

*1 красавіка* сябры Верхнядзьвінскай раённай выбарчай камісіі А. Мароз і В.Высоцкі былі выкліканыя ў адзьдзел крымінальнага вышуку. Ніякіх абвінавачваньняў прадстаўлена не было, браліся тлумачэньні наконт дзейнасьці камісіі.

*2 красавіка* ў Мінску адбыліся мітынг і шэсьце, накіраваныя супраць вяртаньня ядзернай зброі ў Беларусь (ініцыятар акцыі — Беларуская Асацыяцыя Маладых Палітыкаў (БАМП). Гарадзкія ўлады дазволілі толькі правесьці мітынг на плошчы Парыжскай Камуны, ля Опернага тэатру. Але людзі сабраліся на плошчы Якуба Коласа. Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Анатоль Лябедзька (заяўляльнік акцыі, старшыня БАМП) заклікаў удзельнікаў акцыі па тратуарах накіравацца да Опернага тэатру — месца правядзеньня мітынгу. Пасьля заканчэньня мітынгу пачаліся арышты ўдзельнікаў. Затрымана 20 чалавек, сярод якіх былі і непаўнагадовыя ад 12 да 14 гадоў. Затрыманыя былі дастаўленыя ў РАУС Савецкага раёну. Пазьней непаўнагадовых адпусьцілі, а 11 чалавек адвезьлі ў сьпецпрыёмнік-размеркавальнік на вул. Акрэсьціна, дзе яны ўтрымліваліся да судоў.

*5 красавіка* ў судзе Цэнтральнага раёну судзьдзя Анатоль Барысёнак вынес Лявону Садоўскаму папярэджаньне. У судзе Савецкага раёну былі накладзеныя наступныя адміністратыўныя спагнаньні:

1. *Лябедзька Анатоль* (заяўляльнік акцыі) — штраф у 75 млн. руб. (прыкладна 250 даляраў ЗША);
2. *Харкіна Сьвятлана* (Малады Фронт, 19 гадоў) — папярэджаньне;
3. *Лукойка Станіслаў* — штраф у 10 млн. руб. (прыкладна 35 даляраў ЗША;
4. *Капарыха Мікалай* — заявіў хадайніцтва аб прыцягненьні ў працэс адваката, таму суд перанесены на 6.04.99г. У выніку атрымаў штраф у 10 млн. руб.;
5. *Снапкоўскі Анатоль* — 5 сутак адміністратыўнага арышту;
6. *Радкевіч Уладзімір* (пенсіянер, 61 год) — папярэджаньне;
7. *Слышкін Уладзімір* — штраф у 10 млн. рублёў;
8. *Аўраменка Антон* — 10 млн. рублёў;
9. *Рычард Каросьцік* — 10 млн. рублёў.

*3 красавіка* ў г.Гродна быў затрыманы старшыня Свабоднага прафсаюзу прадпрымальнікаў Валеры Леванеўскі. Ён быў выкліканы ў сьледчае ўпраўленьне да начальніка гэтай установы Стральцова ў якасьці сьведкі па справе В.Ганчара. Допыт праводзіў старэйшы сьледчы, падпалкоўнік міліцыі Убарэвіч, які патрабаваў ад В.Леванеўскага інфармацыю пра дзейнасьць Цэнтрвыбаркаму па выбарах прэзідэнта РБ. В. Леванеўскаму забаранілі тэлефанаваць, хадзіць па пакоі, пакідаць пакой, хаця пратакол аб затрыманьні ня быў складзены. В.Леванеўскі паскардзіўся на супрацьпраўныя дзеяньні міліцыі кіраўніку сьледчага апарату Унутраных спраў Гродзенскай вобласьці Анішчыну, але той адказаў: «Не падпішаце дакументы — дадзім 15 сутак».

*5 красавіка* непаўнагадовы Станіслаў Карашчанка, які 6 сьнежня 1998 г. быў зьбіты супрацоўнікамі міліцыі ў цывільным, атрымаў на сваю скаргу адказ з пракуратуры Цэнтральнага раёну г.Мінска. У адказе гаворыцца: «пракуратурай раёну ня знойдзена дастатковых доказаў, якія падцьвярджаюць, што ў адносінах да Вас было зьдзейсьненае злачынства. У сувязі з адзначаным ва ўзбуджэньні крымінальнай справы па факце зьбіцьця Вас супрацоўнікамі міліцыі адмоўлена».

*5 красавіка* ў Магілёве адбылася трагедыя — а 4 гадзіне ў будаўнічым кар'еры знойдзены мёртвым Славамір Амбружэвіч — сябра сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада». Па зьвестках магілёўскага праваабаронцы Валадара Цурпанава, цела С.Амбружэвіча было знойдзенае з чэрапнамазгавой траўмай. Пры гэтым агітацыйныя ўлёткі, грошы з кішэняў не былі скрадзеныя. Кар'ер, у якім было знойдзенае цела, знаходзіўся далёка ад дому С.Амбружэвіча — у іншым накірунку. Вядома, што ў нядзелю 4 красавіка падчас выбараў у мясцовыя саветы С.Амбружэвіч зьяўляўся назіральнікам на адным з выбарчых участкаў. Міліцыя адмовілася ўзбуджаць крымінальную справу па факце сьмерці. Супрацоўнікі міліцыі сьцьвярджаюць, што сьмерць наступіла ня ў выніку гвалтоўных дзеяньняў, а як няшчасны выпадак. Але сябры па партыі ўпэўненыя, што сьмерць С.Амбружэвіча зьвязаная з ягонай палітычнай дзейнасьцю.

*6 красавіка* ў мінскім сьпецпрыёмніку-размеркавальніку адмовіліся прыняць прэсу для ўдзельніка антыядзернай акцыі 2 красавіка Анатоля Снапкоўскага.

*6 красавіка* раптоўна памёр Генадзь Карпенка, намесьнік старшыні Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, намесьнік старшыні Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі, доктар тэхнічных навук, акадэмік Беларускай інжынерна-тэхналагічнай акадэміі, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук, старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэту.

*6 красавіка* ў горадзе Орша ў 8 гадзін раніцы быў затрыманы міліцыяй старшыня страйкаму Беларусі Сяргей Антончык. С.Антончык знаходзіўся на заводах Оршы адзін дзень. Ён праводзіў сустрэчы з рабочымі з мэтаю арганізацыі і падрыхтоўкі рэспубліканскага страйка 15 красавіка. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі і даставілі Сяргея Антончыка ў суд, і судзьдзя распачала над ім працэс за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу. Пракурор прасіў пакараць Антончыка арыштам на 7 сутак. Але тут стала вядома, што памёр Генадзь Карпенка. Антончык папрасіў судзьдзю даць яму хоць і 20 сутак, але адпусьціць на пахаваньне сябра. Судзьдзя пагадзілася і вызваліла Антончыка з умовай, што пасьля пахаваньня ён вернецца аршанскі ў суд.




**Пікет у Наваполацку 13 сакавіка 1999-га году**

*7 красавіка* жонка кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Міхаіла Чыгіра, які знаходзіцца пад арыштам, накіравала Генеральнаму пракурору РБ Алегу Бажэлку заяву. У ёй Юлія Чыгір абвяргае інфармацыю, якая распаўсюджвалася ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі пра тое, што яе муж мае дачыненьне да крадзяжу 1 млн. даляраў ЗША, якія былі пераведзеныя на рахунак канадзкай фірмы.

*7 красавіка* журналіст незалежнай газеты «Навіны» Алег Грузьдзіловіч быў дастаў-лены на допыт у КДБ. Зранку, калі Алег Грузьдзіловіч выйшаў са свайго дому, да яго падыйшлі 8 чалавек у цывільным, прадставілі пасьведчаньні супрацоўнікаў КДБ, пасадзілі ў службовую машыну і даставілі ў КДБ. Варта адзначыць, што яшчэ 5 красавіка Алег Грузьдзіловіч атрымаў позву з КДБ. У той дзень А.Грузьдзіловіч зьявіўся ў КДБ у прызначаны час разам з вядомым у Беларусі адвакатам Гары Паганяйлам і заявіў, што будзе размаўляць са сьледчым толькі ў прысутнасьці адваката. Сьледчы КДБ па асабліва важных справах Генадзь Гнядзько адмовіўся ад такой размовы. 7 красавіка, пасьля таго як А.Грузьдзіловіч быў дастаўлены ў КДБ, яму абвясьцілі, што ўзбуджаная крымінальная справа, і ён павінны даць паказаньні ў якасьці сьведкі. Алег Грузьдзіловіч адмовіўся адказваць на пытаньні без юрыдычнага кансультанта, спаслаўшыся пры гэтым на арт. 62 Канстытуцыі РБ, які гарантуе юрыдычную дапамогу ў такіх выпадках. Апрача таго, А.Грузьдзіловіч адмовіўся падпісацца пад пратаколам, дзе былі пераказаныя ягоныя словы, а таксама даць распіску аб «неразгалошваньні папярэдняга сьледства». Магчыма, выклік у КДБ зьвязаны з артыкулам «Сакрэтны план супраць апазіцыі», які быў надрукаваны ў газеце «Навіны» 19 сакавіка. У артыкуле быў працытаваны план супрацьдзеяньня «групе лідэраў радыкальнай апазіцыі па падрыхтоўцы антыпрэзідэнцкіх выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». У гэтым дакуменце было шмат палажэньняў, якія адкрыта супярэчаць Канстытуцыі РБ і парушаюць правы чалавека. Так, Камітэт дзяржаўнай бясьпекі, згодна з планам, павінен «выкарыстаць сітуацыю з мэтай разлажэньня і «кампраментацыі» апазіцыйных стуктураў».

*У ноч на 8 сакавіка* з-пад хатняга арышту зьнікла эксстаршыня Нацыянальнага банку Беларусі Тамара Віньнікава. У дачыненьні Т.Віньнікавай у канцы 1996 г. была ўзбуджаная крымінальная справа па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэксу РБ: злоўжываньне службовым становішчам; службовы падлог; крадзёж у асабліва буйных памерах. 14 студзеня 1997 г. яна была арыштаваная і амаль 10 месяцаў знаходзілася ў сьледчым ізалятары КДБ. 7 лістапада таго ж году Т.Віньнікавай у сувязі з цяжкім станам здароўя была зьмененая мера стрыманьня — утрыманьне пад хатнім арыштам. З таго часу ў яе кватэры знаходзіліся супрацоўнікі Галоўнага ўпраўленьня дзяржаўнай аховы.


Міхаіл ЧЫГІР

*8 красавіка,* пасьля зьнікненьня эксстаршыні Нацыянальнага банку Тамары Віньнікавай, супрацоўнікі міліцыі затрымалі і даставілі ў Пракуратуру РБ адваката Т.Віньнікавай Людмілу Ульяшыну.

*8 красавіка* скончыліся 10 сутак з дня затрыманьня былога прэм'ер-міністра Беларусі, кандыдата ў прэзідэнты РБ Міхаіла Чыгіра. Далейшае ўтрыманьне пад вартай было б незаконным. Але зранку 8 красавіка сьледчы камітэт МУС прад'явіў афіцыйнае абвінавачваньне М.Чыгіру. Яму інкрымінуюць парушэньне арт. 91. ч.4 (крадзёж у асабліва буйных памерах) і арт. 166 (злоўжываньне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі). У якасьці «крадзяжу» фігуруе 1 млн. даляраў ЗША, якія былі пералічаныя на разьліковы рахунак канадзкай будаўнічай фірмы ў якасьці авансу за будаўніцтва офіснага будынку «Белаграпрамбанку».

*8 красавіка* адбылося пасяджэньне суда Цэнтральнага раёну г.Мінска. Намесьнік старшыні старшыні суда Павел Каршуновіч разгледзеў скаргу Міхаіла Чыгіра аб зьмяненьні меры стрыманьня і прыняў рашэньне аб тым, што яна застаецца ранейшай — утрыманьне пад вартай. У якасьці абаронцы на працэсе выступала жонка М.Чыгіра Юлія Чыгір (юрыст па адукацыі). Скарга была пададзеная на падставе таго, што мера стрыманьня ў выглядзе ўтрыманьня пад вартай практыкуецца ў выпадках затрыманьня небясьпечных злачынцаў, якія сваімі дзеяньнямі ставяць пад пагрозу жыцьцё і здароўе асобы. Суд адхіліў хадайніцтва аб зьмяненьні меры стрыманьня, а пракуратура дала санкцыю на ўтрыманьне М.Чыгіра пад вартай яшчэ на 3 месяцы. Такім чынам, прэзідэнцкія выбары (16 траўня) кандыдат у прэзідэнты сустрэне за кратамі. Юлія Чыгір рыхтуе новыя скаргі на рашэньне судовых і сьледчых органаў.

*12 красавіка* ў Савецкі РАУС г. Мінска добраахвотна зьявіўся дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Валеры Шчукін. Ён падпісаў пратаколы, складзеныя на яго супрацоўнікамі міліцыі за ўдзел у антыяздерным шэсьці 2-га красавіка. Але Шчукін адмовіўся ад дастаўкі ў суд, і яго на працягу гадзіны спрабавалі даставіць туды прымусова. Шчукін абвін-ваціў кіраўніцтва Савецкага РАУС у парушэньні закону, бо ён зьявіўся ў РАУС добраахвотна. Кіраўніцтва РАУСу вымушанае было прывесьці з суда сакратарку, і тая выпісала Шчукіну позву ў суд на 27 красавіка. Пасьля уручэньня позвы Шчукіна адпусьцілі.

*13-14 красавіка* ў Оршы праходзіў судовы працэс над старшынёй Рэспубліканскага страйкаму С.Антончыкам. У судзе інтарэсы Антончыка баранілі грамадзкія абаронцы Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Валянцін Стэфановіч і Уладзімір Падгол. Пад час суда ўсе сьведкі, якія першапачаткова засьведчылі, што Сяргей Антонавіч быў арганізатарам і кіраўніком мітынгу, зьмянілі паказаньні. З іх вынікала, што мітынгу не было, а Антончык каля прахадной заводу адказваў на пытаньні рабочых. Пытаньні, як паказалі сьведкі, тычыліся малых заробкаў і шляхоў іх падвышэньня. Судзьдзя гарадзкога суда прызнала С.Антончыка вінаватым у тым, што ён адказваў на пытаньні рабочых, чым парушыў артыкул 167.1 КаАП Беларусі (парушэньне парадку правядзеньня мітынгаў). За адказы на пытаньні рабочых С.Анточык асуджаны да 10 млн. штрафу.

*15 красавіка* судовы працэс над удзельнікамі антыядзернай акцыі 2 красавіка Юрыем Хадыкам і Галінай Кунінай быў адкладзены, бо судзьдзю Людмілу Савасьцьян забрала «хуткая дапамога». 2 красавіка намесьнік старшыні БНФ «Адраджэньне» Ю. Хадыка быў на плошчы Якуба Коласа, ад якой пачалося антыядзернае шэсьце. З плошчы Якуба Коласа Юры Хадыка разам з жонкай, сястрой і сябрамі пайшоў у тэатр імя Янкі Купалы на п'есу «Касьцюмер». А 14 красавіка на кватэру да Ю.Хадыкі зьявіліся супрацоўнікі міліцыі, якія склалі пратакол пра ягоны ўдзел у недазволеным шэсьці і мітынгу, і зьбіраліся адразу даставіць яго ў суд. Але Ю. Хадыка заявіў аб тым, што хацеў бы, каб у судовым працэсе прымаў удзел адвакат, таму суд быў прызначаны на 15 красавіка і мусіў адбыцца ў гарадзкім адьдзяленьні міліцыі (ГАМе) № 1 (на Камароўскім рынку). На гэты ж дзень быў прызначаны суд над Галінай Кунінай, якая падчас антыядзернай акцыі была жорстка зьбітая людзьмі ў цывільным і да 9 красавіка знаходзілася ў бальніцы з сатрасеньнем мозгу. «Працэс адкладаецца...», — сказала судзьдзя, калі яе забірала «хуткая дапамога».

**Інфармацыйны адзьдзел "Вясны-96"**

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

## I. Ізаляцыя.

Акцыя "Горад – наш!" другога жніўня 1997-га году ў Стоўбцах прайшла, можна сказаць, удала. Над горадам луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, а сьцены некаторых будынкаў упрыгожвалі патрыятычныя і антыпрэзідэнцкія надпісы. Псавала агульнае ўражаньне ад акцыі толькі адная прыкрая аклічнасьць: напрыканцы яе нас бачылі. Валеры Ільюшын, з якім я некалі вучыўся ў адной школе, у тую ноч вяртаўся дамоў з "пікнічку" на добрым падпітку і асьвятліў мяне з сябрамі фарамі свайго аўтамабіля. За намі, на сьцяне, ён убачыў надпіс. Валеры спыніўся і прыпалохаў, што здасьць нас у міліцыю. Ніхто тады не зьвярнуў на ягоныя словы асаблівай увагі, але ўрэшце рэшт так і здарылася: на судзе Валеры Ільюшын быў галоўным сьведкам...

...Вяртаючыся ў Стоўбцы з Мінску 25 жніўня, я нават уявіць сабе ня мог, што дома мяне чакае "засада". Восем міліцыянтаў рабілі вобыск, які на справе быў сапраўдным пагромам. Зайшоўшы ў хату я так і застыў на парозе: з усіх шафаў былі выкінутыя вопратка і бялізна, са сьценаў былі садраныя календары, на падлозе валяліся кнігі і розныя паперы, у куце стаяла вялізная скрыня, куды скідвалася знойдзеная ў мяне "крамола": нацыянальныя сьцягі, улёткі, буклеты, кнігі і касеты з запісамі на беларускай мове. Шукалі, праўда, як потым выявілася, зусім іншае: балончыкі з фарбаю. Але іх у мяне не было.

Гадзіны тры мяне дапытвалі пра падзеі начы другога жніўня. Я адпрэчваў усялякія абвінавачаньні . Аднак пасьля таго, як мне паказалі пратакол допыту маёй былой жонкі Іны Піменавай і "ілюшынскія паказаньні", маё адмаўленьне страціла сэнс. Я напісаў заяву на адваката і ў суправаджэньні канвою быў адпраўлены ў камеру ізалятару часовага ўтрыманьня (ІЧУ). Усе наступныя падзеі я адсочваў ужо з няволі. Пачатак "Стаўбцоўскай справы" быў, такім чынам, пакладзены...

## II. ІЧУ, Стоўбцы.

Хаця раней мне даводзілася адбываць 10 сутак адміністратыўнага арышту (за сьвяткаваньне Дня Канстытуцыі), я ўсё ж быў вельмі ўражаны ўбоствам камеры ў Стаўбцоўскім ізалятары часовага ўтрыманьня, куды даставілі мяне а дванаццатай гадзіне ночы 25 жніўня. Прынамсі, ня думаў, што яе памеры будуць настолькі малымі. Два метры ў шырыню, тры ў даўжыню, два двух'ярусныя ложкі-"нары" і яшчэ адныя "нары" у куце. Пры гэтым вольнай прасторы амаль не заставалася. Дзесьці высока пад столлю знаходзілася вакенца. Але краты на ім былі



такія густыя, што сонечнае сьвятло амаль не трапляла ў камеру. Дзьве суседнія камеры былі перапоўненыя, аднак мяне трымалі аднаго. Чаму – я зразумеў пасьля таго, як назаўтра да мяне быў падкінуты гаваркі мужчынка, які занадта ж цікавіўся абставінамі маёй справы. Такіх называюць "падсадною качкаю". Дзякуй Богу, я скеміў, у чым тут справа, і не паддаўся на ягоныя правакацыйныя пытаньні. З гэтага выпадку я вывеў сабе першае правіла паводзінаў за кратамі: "Ніколі ні з кім не размаўляй пра падрабязнасьці тваёй справы пакуль ідзе сьледства".

Па законе сьледчы павінен правесьці першы допыт падазронага не пазьней чым праз 24 гадзіны пасьля затрыманьня. Але ў сьледчага Яськевіча нечакана зьявілася праблема: усе адвакаты ў радыусе 50 кіламетраў ад Стоўбцаў на той час адмовіліся абараняць мяне, і калі б да 17-ці гадзінаў 26 жніўня сьледчы Яськевіч не знайшоў мне абарону – ён быў бы вымушаны мяне адпусьціць. І тады ён пайшоў на хітрасьць: паскардзіўся мне на баязьлівасьць адвакатаў і сказаў, што я вымушаны напісаць паперу аб тым, што згодзен узяць абаронцу толькі з моманту прад'яўленьня абвінавачаньня. Я па сваёй нявопытнасьці гэтую паперу напісаў, тым самым пазбавіўшы сябе волі. Адсюль вывеў я потым другое правіла паводзінаў за кратамі: "Без свайго абаронцы не адказвай на пытаньні сьледчых і нічога не падпісвай".

Назаўтра мяне чакалі ня менш важныя і цікавыя падзеі. Каля трох гадзінаў дня я быў дастаўлены на допыт у мясцовы адзьдзел КДБ. Там увесь час торкалі пад нос канфіскаванымі ў мяне ўлёткамі і пагражалі, што калі "ня здам астатніх", "раскруцяць" маю справу "на поўную катушку". Я катэгарычна адмовіўся даваць паказаньні, і тады мяне прывялі ў вялікую залу, дзе сядзеў невядомы мне палкоўнік з МУС. Яго цікавіла толькі адно пытаньне: надпісы былі зробленыя з хуліганскіх памкненьняў, ці па ідэалагічных (палітычных) прычынах. Пачуўшы, што па палітычных, ён ціха пайшоў да выхаду з залы і ўжо ў дзьвярах павярнуўся да мяне і прамовіў: "Незайздросны ў цябе лёс, хлопец..."

У гэты ж дзень на платформе стаўбцоўскага вакзала быў арыштаваны і кінуты ў суседнюю камеру мой сябар Вадзім Лабковіч. Справа пачала набіраць абароты. У дадатак да ўсяго, за гэтыя двое сутак у Стаўбцоўскім раёне было праведзена некалькі вобыскаў і дзесяткі допытаў мясцовых апазіцыянераў. Стаўбцоўская міліцыя на чале з начальнікам РАУС Лісаўцом даўно не атрымлівала такога шанцу выслужыцца і падняцца па службовай лесьвіцы, бо злачыннасьці ў горадзе амаль не было. Гэтая ж справа з першага дня, па словах сьледчага і начальніка РАУС, была ўзятая на кантроль Генеральным пракурорам Бажэлкам і нават прэзідэнтам Лукашэнкам, у прыёмную да якога ім даводзілася вазіць усе заведзеныя на нас з Вадзімам паперы.

Між тым заканчваліся трэція суткі майго знаходжаньня пад вартаю, і надыходзіў час уступаць у справу пракурору – выпісваць мне арышт на два месяцы. Усё яшчэ спадзеючыся на тое, што розум пераможа, я напісаў хадайніцтва аб вызваленьні пад падпіску аб нявыезьдзе.

Сьледчы ж рыхтаваў мне іншую пастку-выпрабаваньне. Пасадзіўшы мяне ў сваю ўласную машыну, без кайданкоў, без суправаджэньня ён з гадзіну езьдзіў па горадзе і то там, то тут выходзіў з аўтамабіля, нібыта ў краму. Я заставаўся ў "Фордзе" адзін. З ключамі ад машыны, з адчыненымі дзьверкамі. Відавочна, разьлік рабіўся на тое, што я зьбягу, гэтым самым прызнаўшы сваю віну. Упэўніўшыся, што рабіць гэтага я не зьбіраюся, Яськевіч адвёз мяне назад, і намесьнік пракурора Мядзьведзь уручыла мне паперу аб арышце, колькі разоў пры гэтым назваўшы фашыстам і выказаўшы думку аб мэтазгоднасьці аднаўленьня газавых камераў для такіх як я. Папера аб арышце ўтрымлівала інфармацыю, што я парушыў артыкулы 201.2 ("злоснае хуліганства") і 186.2 ("зьнявага сімвалаў"), але была цікавая ня гэтым, а тым, што першым пунктам абвінавачаньня ішлі словы: "Зьняважаны гонар і годнасьць першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь"...

*(Працяг будзе)*



Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open. by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"